*„Загляне сонцэ
і ў нашэ ваконцэ“.*

# ПАЎЛІНКА.

Сцэны изъ шляхоцкаго жыцьця
у 2-х актах.

**Янкі Купалы.**

ПЕЦЯРБУРГ. 1913.

Янка Купала.

# ПАЎЛІНКА.

Сцэны із шляхоцкаго жыцьця

у двух актах.



ПЕЦЯРБУРГ 1913

Н а  а р ы г і н а л е  н а п і с а н а:

Къ представленію дозволено за № 15679.

С.-Петербургъ 23 ноября 1912 года.

За цензора драматическихъ сочиненій

Р е б р о в ъ.

- - - - -

# П А Ў Л І Н К А.

---

А с о б ы:

СЬЦЕПА́Н КРЫНІ́ЦКІ - засьценко́вы шля́хціц 45 г.
АЛЬЖБЕ́ТА - яго́ жо́нка . . . . . . . . . . 40 -
ПАЎЛІ́НКА - дачка́ Крыні́цкіх . . . . . . 19 -
ПРАНЦІ́СЬ ПУСТАРЭ́ВІЧ - сваяк Крыні́цкіх. 50 -
АГА́ТА - яго́ жо́нка . . . . . . . . . . . 43 -
ЯКІ́М САРО́КА - вучы́цель . . . . . . . . . 25 -
АДО́ЛЬФ БЫКО́ЎСКІ . . . . . . . . . . . . 24 -

ГО́СЬЦІ - МУЗЫ́КІ.

Рэч адбыва́ецца ў на́шы дні ў ха́це КРЫНІ́ЦКІХ.

- - - - - - - - - - -

## А К Т І - шы.

- - - - -

Абшырная сьвятліца. На права ад публікі - вокны ў сад, бліжэй к аркестру - стол, каля стала - лавы і табурэцікі, над сталом - вісячая недарагая лямпа, на сьцяне - абразы. На лева дзьверы ў сенцы, бліжэй к аркестру - куфар. Напроць - сьцена і дзьверы ў бакоўку /каморку/; справа пры сьцяне ад бакоўкі - ложак засланы коўдрай, у галавах высака накладзена падушак; на лева - ў кутку - печ, на сьцяне стрэльба, старасьвецкі з гірамі гадзіннік і некалькі лубачных малюнкаў.

Ч а с : асенні вечэр перэд Пакровамі.

- - - - - -

### З Ь Я В А І - ая.

### ПАЎЛІНКА /адна/.

Стройная і досьць прыгожая дзяўчынка. Адзеўшыся ў недарагую крамніну, але чысьценька; бяз хусткі, - ў валасах колькі грэбеньчыкаў. Сядзіць

на ложку і пільна шые крамны кафтанік. Як падыймаецца заслона - Паўлінка пяе.

Ой пайду я лугам, лугам,
Дзе мой мілы арэ плугам;
Ой пайду я лугам, лугам!

Ён арэць поле валамі,
А я плачу ўсё сълезамі;
Ён арэць поле валамі.

/Перэстаўшы пець/.

Э-э! штось не пяецца сягоння. Неяк сэрцэйка трасецца, якбы хто яго знеўціку перэпужаў. А мо' гэта песьня вінавата. Даліпантачкі, аніяк не магу сама с сабой да ладу прысьці. А ну, на шчасьце зачну другую. Якую-ж бы тут? Ага!.. /Пяе/.

Дый чаго-ж ты, дуб зялёны,
Пахінаешся?
Дый чаго-ж ты, мой міленькі,
Задумляешся?

/Пяючы патходзе к вакну і пагледае, пасьля ізноў садзіцца/. А ўсё такі нешта не цікава на сэрцы. І чаго яму бедненькаму не стае? Ціць і есь-

ці, дзякаваць Богу хватае; часам татка дае грошы і на сукенкі... Чаго, чаго, здаецца, тут хацець?.. Ох, ох, якжэ маркотнінька! Прост, хоць зьбірай манаткі ды йдзі ў прочкі с хаткі. Ужо вечарэе: зараз ня будзе як шыць, а трэба сягоння канешне коньчыць. Заўтра Пакровы... у Міхалішках кірмаш... Эх, эх! каб хаця той прышоў, каго так хочэцца сягоння пабачыць. /Садзіцца пры вакне і пачынае ізноў шыючы пець/.

Ой, ляцелі гусі дый над Белайрусю,
Селі яны, палі на сівым Дунаю!

Селі яны, палі, ваду замуцілі,
Дый нас маладзенькіх з сабой разлучылі.

Бадай тые гусі марне запрапалі,
Як мы любіліся - цяпер перэсталі.

/Паглядзеўшы ў вакно/. Ну, ужо німа як саўсім без агню шыць! Зараз трэба запаліць лямпу. Цямнее і цямнее, ночка набліжаецца, а яго як німа, так німа! А шчыра абецаўся шэльма напэўна прыйці. /Шукае запалак і запалівае лямпу/. І што гэты тата да яго мае? С таго часу, як даведаўся, што ён на мяне мілым вокам паглядае, - ўсё роўна, як чор-

ная котка між імі перабегла. Ён то нічога, але тата дык жыўцом-бы яго зьеў. Ну, але тата сваё, Якім сваё, а я - сваё. Паглядзім, чый верх будзе: таткаў, ці мой, ці яго? /Падумаўшы/. Казаў прыдзе сягоння, каб там і ліха гарэла. "Трэба , кажэ, сякую, ці такую зрабіць пастанову. Мы, кажэ, ня дзеці, - маем свой розум і можам сабой пакіравацца. Толькі ты, кажэ, Паулінка, павінна на гэта прыстаць канешне, бо іначэй, кажэ, згінем, як рудые мышы". /Ускочыўшы/. Ай! нехта ідзе. Ён, ён, напэўна ён!..

## З Ь Я В А II - ая.

## ПАЎЛІНКА - ЯКІМ.

ЯКІМ. Вось і я - як тут быў! Добры вечар ясьне-пекнай панне Паўлінцэ. Што, золатцэ маё ненаглядное, прачэкалася трохі мяне, ненавістніка? /Глянуўшы на бакі/. А ці нікога німа? /Гаворучы, падбліжаецца к Паўлінцэ, вітаецца і хочэ абняць яе/.

ПАЎЛІНКА /баронючыся/. Ой, ой! памалу. Усе дома, ўсе дома. Толькі ў Якіма ня ўсе дома, бо по-начы ходзе да маладых дзеўчат. Дадуць, дадуць зараз пытлю старые. /Тупаючы нагой/. Паз-

вале́нне ёсьць гэтак по́зна прыхо́дзіць?

ЯКІМ /садзючыся/. Ёсьць, ёсьць, мая́ ты сакату́шка, шчэбяту́шка! Кажы́ то́лькі хутчэ́й, галу́бка мая́ бязкрылая: та́та твой до́ма, ці не? Бо-ж сама́ ве́даеш, яка́я ў нас з ім страшэ́нная любасьць.

ПАЎЛІНКА /садзючы́ся за шыцьцё/. Ой, чаму-ж ня ве́даю: як між като́м і саба́кай, якра́з. А́ле, а́ле сьме́ла будзь, як у Бо́га пад прыпечкам. Пае́халі абое на торг і пэўне по́зна ве́рнуцца, бо ма́юць тро́хі сяго́-таго́ да прада́ння, і маня́цца сякі́е-такі́е зрабі́ць паку́пкі. Ба́чыш, за́ўтра ма́е быць тро́хі гасьце́й с кірма́шу.

ЯКІМ. Та-а-к! Зна́чыцца, тым кшта́лтам, вечарынка будзе.

ПАЎЛІНКА. Так, так! Вечары́нка быць то бу́дзе, а́ле ня ўсе на ей бу́дуць.

ЯКІМ. Эх, Паўлі́нка! Ты ўсё свае́; мне і так го́рка на душы́, якбы хто там палы́н засе́яў, а ты ешчэ́ прыты́чкамі сваі́мі со́ліш. Вазьму́ на злосьць ды прыду́. Што-ж яны́ са мно́ю зро́бюць?

ПАЎЛІНКА. Зрабі́ць то нічо́га ня зро́бюць, а́ле і ты сам нічо́га ня зро́біш, а то́лькі праро́біш...

ЯКІМ /ро́бючы папяро́су/. Ці я́сьне-панна Паўлінка пазво́ліць мне закуры́ць пры ёй?

ПАЎЛІНКА. Ого, скуль такая далікатнасьць? Рукам каля дзяўчыны дае волю без пытання, а як паперoccку закурыць, дык пазваленьня просіць. Не пазваляю за тое, вось і ўсё тут!

ЯКІМ. А я закуру.

ПАЎЛІНКА. А я не дам! /Кідае шыцьцё і хочэ адабраць паперосу. Нейкі час тузаюцца, бегаюць адно за адным па хаце і няўмысьле раскідаюць на ложку падушкі/.

ЯКІМ /бегаючы/. Ну, ужо годзе, годзе, Паўлінка! Болей нічому без твайго пазваленьня даваць волі ня буду.

ПАЎЛІНКА. Ну, калі так, то згода! /Садзяцца: Якім курэ, Паўлінка шые/.

ЯКІМ /памаўчаўшы/. Паўлінка!

ПАЎЛІНКА. Га! Ці пан Якім забыўся, як я завуся?

ЯКІМ. Ды не! Я хацеў-бы, золатцэ, сур'ёзна з табой пагаварыць.

ПАЎЛІНКА. І-і!!! Ведаю я гэтые сур'ёзнасьці. Перш-на-перш будзе, ці я люблю, пасьля - ці вельмі моцна, а пасьля, ці гатова ўсё тысьценька зрабіць, што чэрнабрывы Якім захочэ, а там, а там... і паехала, як на непадмазаных калёсах... Ці-ж не

праўда?

ЯКІМ. Праўда, то праўда, але ўсяму мусіць быць канец.

ПАЎЛІНКА. Ну, дык слухаем, вашэці. А вось можэ і новую песеньку нам съпяіцё. Адно толькі за ўмовай: або надта вясёлую, вясёлую, каб аж лявоніху захацелася ісьці, або такую сумна-сумненькую, што выслухаўшы яе - раз, два, ды бухтыль у вір галавою! вось так! /Паказывае і чуць не валіцца; Якім патхоплівае і садзіць на лаве/.

ЯКІМ. Гэта будзе ат цябе, маё ты сонейка, залежыць. Як захочэш - такая і песенька выйдзе: або вясёлая, радасная, якбы самое неба яснае, або сумная, гаротная, як асеннiе хмары над гэтай зямелькай чорнай. /Памаўчаўшы/. Эх, эх! І дакуль-жэ ўсё гэта будзе цягнуцца. Дакуль, як сухавей, сушыць і мучыць нас будзе?

ПАЎЛІНКА /жартабліва/. Толькі не нас, а мяне трэба гаварыць. Мне дужа добра, весела, і так лёганька, лёганька на сэрцы, што...

ЯКІМ /с дасадай/. Паўлінка!

ПАЎЛІНКА /закрываючы губы рукой/. Ну, ну, ужо маўчу... як немая рыба.

ЯКІМ /якбы сам да сябе/. Калі, калі ўжо на-

дойдзе тая часінка, што нас злучыць на векі і мы ўжо ніколі не разстанімся? Калі? Калі?..

ПАЎЛІНКА. Ха-ха-ха! На сьвятое ніколі. Вельмі ўжо татка мой заеўся на цябе с таго часу, як даведаўся, што мы с табой злюбіліся. Ну, а без таты гэты інтэрас наладзіць будзе вельмі трудна.

ЯКІМ. Трудна, то яно трудна, але німа таго злога, каб ня вышла на добрае. Хоць-бы прымерам мы с табой так зрабілі: выбраўшы падхадзячую часіну, калі стары будзе ня ў злосьці, узяліся с табой за рукі, падышлі к яму, укленьчылі і сказалі: так і так, наш добры бацячка, - я люблю Паўлінку, а я люблю Якімку - вельмі-вельмі моцна так, што і жыцьця нам аднаму без аднаго німашака, ну, дык супакойце нашы сэрцэйкі: дайце нам пазваленне узяць ды пажаніціся...

ПАЎЛІНКА. Э-э!.. Не туды, мой ты дурненькі Якімка, паехаў! Уедзеш гэтак у нерат, што ні ў зад, ні ў-перад. Каб гэта ешчэ тольki з мамкай, то яно сяк так, як табе не раз я і казала, але з старым дык чыстая беда, настаяшчае горэ. Хоць ты яму кол на галаве чашы, дык нічога ня выдзяўбеш. "На парог, кажэ, каб і не важыўся паказывацца; мазгаўню, кажэ, гаду пашчэпаю". Вось і рабі з ім

што хочэш! Каб мог, дык на першай асіне павесіў бы цябе. Ну, і гдзе-ж у такім разе набрацца сьмеласьці, ісьці кленьчыць перад ім і прасіць пазвалення... Задасьць такога пытлю і табе, і мне разам, што і жаніцьба ў галаву не палезе.

ЯКІМ. Так, то яно так! Але я неяк усё ешчэ надзеі не трачу, - ану-ж атпусьціцца. Быў-жэ такі час, што мяне любіў, ды нават у бядзе то тады,то сяды памагаў.

ПАЎЛІНКА. Быў час, але вадою сплыў. Памагаў, пакуль не ўбачыў, што трэба і дачкой памагчы, а як да гэтаго стала даходзіць, вось у ім і адазвалася шляхоцкая фанабэрыя. Другую песьню цяпер пяе. Нож точыць... востра нож точыць родны мой татка на таго, каго сам калісь любіў і каго я палюбіла... /Устаючы, горача/. I па векі вечные любіць буду. /Ідзе і папраўляе падушкі, за ёй - Якім, абымае і садзяцца абняўшыся абое на ложку/.

ЯКІМ /памаўчаўшы, ласкава/. Паўлінка!

ПАЎЛІНКА /сьмяючыся/. Ізноў забыўся, як завуся?

ЯКІМ. А ты ізноў свае... Слухай, міленькая: ці ты надумалася зрабіць тое, аб што я цябе надовічы прасіў і маліў. Сама-ж ты, золатцэ,каза-

ла мне не раз і цяпер кажэш, што татка твой ні на якіе просьбы ня згодзіцца. Значыцца, сама добра разумееш, што іншаго выхаду для нас немашака. А гэтак, як я казаў, будзе найлепей. Ці то мы будзем першые, або апошніе. Янка Лукашонак з сваей Зосяй так зрабілі, Ігнась Манякоўскі - з сваей Дамінісяй, ды і шмат хто... Бацькі спачатку пазлуюць, пазлуюць трохі і атпусьцяцца, - ведама бацькаўскае сэрцэ. Вось мы с табой, міленькая, такім парадкам самі сабе шчасьце збудуем і нічыей ласкі прасіць ня будзем. Адно, абы твая згода і ўсё будзе добра. Я ўжо, прызнацца табе, гаварыў с папом. Ён заўтра прыежджае ў Міхалішкі імшу атпраўляць, і заначуе ў ваколіцы. Ну, а мы к яму... раз, два і гатова.

ПАЎЛІНКА. Думаць, то я думала,але неяк страшна. Можэ-б было лепей, каб ешчэ трохі пачэкаць, а то так скора,раптам... Хто сьпяшыць, той людзей сьмяшыць.

ЯКІМ. Якая ты нядобрая, Паўлінка. Ты зараз - страшна, страшна, пачэкаць, пачэкаць! Гэтак і ўсю сваю моладасьць пачэканкамі перэчэкаем. А так гэта дачэснае жыцьцё можна добра наладзіць, так добра, абы толькі ахвота ў нас была ды вытрывалась.

ПАЎЛІНКА. А што - калі зловюць? Гэта-ж я ня выжыву з сораму, людзі вочы выбяруць, нельга будзе на сьвет паказацца. Цяпер і то колькі ўсякай брыды ўслужлівые суседзі і суседкі на нас вернуць, а што і гаварыць тады, як нам гэта "Бог наш уцечка" не ўдасца.

ЯКІМ. Ня бойся, золатцэ, ня зловюць! Усе пойдзе гладка. Заўтра у вас вечарынка; посьле вечарынкі ўсе будуць спаць моцна так, што хоць з гарматаў стрэляй - нічога не пачуюць. Я ўсе акуратна прыгатую, ты толькі зьвяжэш у клумак што патрабнейшае, а там праз момэнт - і ты мая на векі вечные.

ПАЎЛІНКА /нібы са злосьцю/. Не я твая, а ты мой на векі вечные!

ЯКІМ. Ну, хай будзе, як Сора казала; але гэта толькі тады ў нас выйдзе, калі ты прыстанеш на тое, аб што я цябе прасіў і прашу.

ПАЎЛІНКА /падумаўшы, сьмяючыся/. Ну, згода да... заўтрашняго дня, а там пабачым.

ЯКІМ /павесялеўшы/. І даўно ўжо трэбало гэтак сказаць, мая ты кветачка майская. Заўтра вечэрам, як толькі ўсе паўкладаюцца, - я ўжо ў садзе пад вакном буду на цябе чэкаць. Ты ваконцэ

атчыніш, лахі пат пахі ды скакель с хаты ў сад, як пятух!..

ПАЎЛІНКА. Гэта ты, як пятух, а я, як...

ЯКІМ /перэпыняючы/. Як курыца.

ПАЎЛІНКА. Ня курыца, а як зязюлька.

ЯКІМ. Як зязюлька, праз вакно фырр! а пятух цап. а поп крапілам пырсь! а там...

ПАЎЛІНКА /съмяючыся/. А там ізноў фырр!..
/Размахівае рукамі і хочэ вырвацца. Якім мацней прыціскае яе к сабе і хочэ пацалаваць; яна нібы бароніцца, а пасьля хватае яго за шыю, і доўга горача цалуюцца.

ЯКІМ. Ох, каб гэтак усё жыцьцё і кожную мінутку.

ПАЎЛІНКА. Ого! Разласаваўся!.. Аскому нагоніш, пакуль ахвоту спагоніш. /Прыслухаўшыся/. Ой! Недзе туркочэ! Ці ня едуць толькі нашы с торгу.

ЯКІМ /прыслухаўшыся/. Такі-ж нехта едзе.

ПАЎЛІНКА /сумна/. Значыцца, Якімка, трэба ўжо табе рабіць фырр!

ЯКІМ /устаючы, с уздохам/. Нічога не парадзіш - трэба!.. Ой, гэтые бацькі! І чаму гэта ня родзюцца на съвет дочкі без бацькоў!..

ПАЎЛІНКА /устаючы/. Ах, чуць не забылася. Ці

прынёс мне то́е, што абяца́ўся?

ЯКІМ. А як-жэ, прынёс, маё ты зо́латцэ. /Дастае́ с кішані́ фатагра́фію і аддае́ Паўлі́нцэ/.

ПАЎЛІНКА /прыгледа́ючыся к фатагра́фіі, ве́села/. Вот так до́бра! Заме́ста аднаго́, ма́ю ўжо́ двух: аднаго́, што сам хо́дзе да дзеўча́т і рука́м во́лю дае́, а друго́га, што трэ́ба насі́ць за... па́зухай. /Сьмяе́цца/.

ЯКІМ /любу́ецца е́ю, хвата́е і цалу́е/. Ах ты, зязю́лька мая́ ненагля́дная!

ПАЎЛІНКА /баро́нючыся/. Ну, ну, пятушо́к! Не гарачы́ся; пасьпе́еш с ко́замі на торг. /Выпіха́ючы Які́ма с ха́ты/. Марш да до́му! Раз, два, тры!..

ЯКІМ /у дзьвера́х/. По́мні, Паўлі́нка - заўтра!.. /Выхо́дзе/.

## З Ь Я В А III-ая.

## ПАЎЛІНКА /адна́/.

ПАЎЛІНКА /папраўля́е ло́жак, пасьля́ прыгле́даецца к фатагра́фіі, цалу́е яе́ і хава́е за па́зуху. Прыціска́ючы гру́дзі рука́мі/. А што, сма́чна? Це́пленька?.. Га?. Каля́ са́мага сэ́рцэйка дзяво́чаго... Пэ́ўне чу́еш, як яно́ бе́дненькае трапе́чыцца. Вы́гадна табе́ тут, як ні́дзе, ніко́му!.. А́ле не,

не! Гэтак не выпадае. Ешчэ трохі порана... Посьле заўтра - другая рэч. А цяпер... /Ідзе к абразу/. пасядзі лепш, саколік, за абразікам. Седзючы гэтак у Бога за плячыма, меней будзеш мець грэшных думак у галаве, чымся песьцючыся тут /Паказывае/ за пазухай у маладой дзяўчыны. /Напеваючы патходзе к сьцяне, хавае фатаграфію за абраз і, як у нічым не бывала, садзіцца за шыцьцё/.

Дый чым-жэ твая, дзеванька,
Галоўка занята? /і т. д./.

## З Ь Я В А IV-ая.

ПАЎЛІНКА - СЬЦЕПАН - АЛЬЖБЕТА.

СЬЦЕПАН /пьянаваты, ўходзе з Альжбетай з сенцаў і прыпевае/.

Дзе мы едзем, дзе мы йдзём,-
Карчмы не мінаем;
Дзе заедзем, дзе зайдзём,-
Там і пагуляем.

АЛЬЖБЕТА /кладучы пакупкі на куфар і раздзеваючыся, да Сьцепана/. Не сьмяшы ты людзей. Калі патпіў, дык ляж спаць!

СЬЦЕПАН. Маўчы́, ба́ба!.. Ты, каха́ненькая, ро́дненькая, нічо́га не разьбіра́еш... Валасы́ до́ўгіе, а ро́зум каро́ткі. /Прыпева́е/.

Ой, там на гарэ́
Мужы́к жо́нкай арэ́,
А друга́я падбега́е:
"Запражы́-ж ты мяне́".

/Хо́чэ абня́ць Альжбе́ту/.

АЛЬЖБЕ́ТА /атпіргну́ўшы/. Ах, ты гніла́я качары́жка! Ешчэ́ мо́жэ табе́ чаго́ захо́чэцца...

СЬЦЕПАН /выкру́чываючы нага́мі/.

Дзед боб малаці́ў,
Ба́ба падсева́ла...

ПАЎЛІНКА. Та́та! Ды кі́ньце ўжо́!.. Ось, ле́пей разьдзева́йцеся, ды мо́жэ чаго́ зъясьце́.

СЬЦЕПАН. А мо́жэ гэ́та і до́бра, каха́ненькая, ро́дненькая... Каб так кі́слай ды гара́чай капу́сты... /Скіда́е апра́тку і кладзе́ на ку́фар/.

Скі́ну бу́рку, скі́ну бо́ты,
Дый надзе́ну ла́пці;
Ко́жны ду́рэнь, ці разу́мны -

Пан у сваей хаце.

/Сдзіцца за стол/.

ПАЎЛІНКА /кінуушы шыцьцё на ложак, да Альжбеты/. Мамка, дастаньце с куфра настольнік, а я прынясу чаго вам зьесьці. /Выходзе/.

ЗЬЯВА V-ая.

СЬЦЕПАН - АЛЬЖБЕТА.

АЛЬЖБЕТА /дастаючы настольнік с куфра/. С кім ты гэтак намурзаўся?

СЬЦЕПАН /закурываючы люльку/. Я і с тым, я і с сім, а ты, каханенькая, родненькая, згадай,- с кім?

АЛЬЖБЕТА. А немач цябе ведае - с кім?

СЬЦЕПАН. Ці-ж я не казаў, што у цябе тут /торкаючы сабе пальцам у лоб/ ня ўсе дома. Але слухай: З зяцем!

АЛЬЖБЕТА /зьдзівіўшыся/. З зяцем?!

СЬЦЕПАН. Так, так, каханенькая, родненькая. Хто з сватам, хто з свацей, а як Сьцепан Крыніцкі дык з родным зяцем.

АЛЬЖБЕТА /накрываючы стол/. Такі праўду кажуць, што гарэлка людзей с поля зводзе. Калі-ж

ты ўсьпеў яго нажыць?.. Дачка ешчэ замуж ня вышла, а бацька ўжо зяця мае!

СЬЦЕПАН. Калі не маю цяпер, дык буду мець у чацьвер. Гэта, бачыш, ён ешчэ толькі зьбіраецца падмавацца к нашай Паулінцэ; ну, а каб сьлізчэй усё пашло, дык перш мяне ён падмазаў.

АЛЬЖБЕТА /садзіцца/. Так-бы і казаў адразу. А хто-ж гэта такі?

СЬЦЕПАН. Адольф Быкоўскі!

Э-э! Я думала, хто там!.. Ажно нічога людзкаго. Толькі езьдзе ды нюхае, якая дзяўчына пасагу больш мае, а сам дык голы, як бізун.

СЬЦЕПАН. Пасаг нюхае, бо нос мае. Але ўсё такі гэта для нас блін ды ешчэ маслам падмазаны. Ён сам мне, каханенькая, родненькая, хваліўся, што яго гаспадарка ў сто раз лепшая ад усіх тутэйшых гаспадароў. За аднаго каня толькі, казаў, заплаціў селета тры сотні. "На гэтым-жэ кані, кажэ, заўтра к васпанству заедуся с кірмашу". /Мацаецца па кішэнях, сам сабе/. Дзе-ж бы яна падзелася. /Да Альжбеты/. Ты, баба, не бачыла кніжкі, што я купіў сягоння? Дзе яна прапала?

АЛЬЖБЕТА. А што я пастушка над тваімі кніж-

камі. Прапіў можэ з гэтым сваім зяцем.

СЬЦЕПАН /ідзе к куфру, находзе ў бурцэ кніжку і кладзе яе за абраз, дзе Паўлінка палажыла фатаграфію/. Кахаленькая, родненькая, ня думай, што я якую дрэнь выбраў сабе на зяця. Заўтра ён прыедзе, паглядзіш, дык адразу што другое запяеш. Адным словам, хлапец: шляхоцкаго заводу, з рызыкай, з усякай дэлікатнасьцяй і ўсё такое...

## З Ь Я В А VI-ая.

### ПАЎЛІНКА - СЬЦЕПАН - АЛЬЖБЕТА.

ПАЎЛІНКА /ўходзючы з міскай, з лыжкамі і хлебам пат пахай/. Аб кім гэта, татка, гаворыце, што мае ўсякую дэлікатнасьць і ўсё такое? /Ставіць яду на стол і садзіцца за шыцьцё/.

СЬЦЕПАН /ядучы/. Вельмі васпанна цікавая! Скора састарышся, кахаленькая, родненькая, як усё будзеш ведаць.

ПАЎЛІНКА /просючы/. Скажэце, скажэце, таточка!

СЬЦЕПАН. Ага, ні села, ні пала, захацела баба сала. Калі ўжо табе, кахаленькая, родненькая, так хочэцца, дык скажу. /С павагай/. Знакам тым,

гэта паніч з дэлікатнасьцяй і с усякім такім - мой зяць.

ПАЎЛІНКА /пырснуўшы сьмехам/. Зяць!!..

СЬЦЕПАН. Знакам тым, ён не саўсім ешчэ зяць, але скора на яго выкіруіцца.

ПАЎЛІНКА. А якжэ ґоднасьць гэтаго... гэтаго, ну як яго... што некалі татавым зяцем зробіцца.

АЛЬЖБЕТА. Ды гэты-ж, гэты... Ты пэўне яго бачыла некалі... Адольф Быкоўшчык.

ПАЎЛІНКА. Быкоўшчык!!..

СЬЦЕПАН. Але. Але! Пан Адольф Быкоўскі.

ПАЎЛІНКА. Ну, хіба, татка, для яго другой дачкі пастараецеся, або самі з ім ажэніцеся, каб перэрабіць яго с простаго чэлавека на свайго зяця.

СЬЦЕПАН. А ты што? - Зломак?

ПАЎЛІНКА. Зломак - ня зломак, але і за ламаку не пайду.

СЬЦЕПАН. А дзяга на што?

ПАЎЛІНКА. На ўсё, толькі не на паганяку к замужству.

СЬЦЕПАН. Каханенькая, родненькая, ешчэ паглядзім, дзе каго пасадзім.

АЛЬЖБЕТА /ядучы, да Сьцепана/. Еш.вот ле-

пей, чымся с пустога ў парожняе перэліваць. Як прыедзе сватацца, тады тое і будзе.

ПАЎЛІНКА. Татка ведаеш не сягоння, за каго я толькі пайду, або за нікога.

СЬЦЕПАН /зьмяніўшыся, кідаючы лыжку аб стол/. Што?!.. За каго?..

ПАЎЛІНКА /устаючы і ідучы к ложку/. За каго? - За Якіма!

СЬЦЕПАН /стукаючы кулаком па стале/. Маўчы, гадаўка! Раз сказаў, каб гэтаго шэльмы і звання не было у маей хаце, каб яго імені я ня чуў ніколі... гэтаго недаўярка, гэтаго... гэтаго забастоўшчыка. Дык і не забывайся аб гэтым, кахаsuccessful ненькая, родненькая.

ПАЎЛІНКА /з дасадай/. На што дарэмшчыну вясьці. Ён нікому ніякай забастоўкі не рабіў і ня робіць.

СЬЦЕПАН /закурываючы са злосьцю люльку/. А чорт яго бяры, ня тут успамінаючы,- рабіў, ці не рабіў! Знаць і ведаць не хачу яго ў сваей хаце, гэтаго хамуйлу, гэтае плюгаўство.

АЛЬЖБЕТА. Прыбірай, Паўлінка, ўжо са стала!

ПАЎЛІНКА /кінуўшы на ложак шыцьцё і ідучы к сталу/. А даўно гэта, татка, сам з ім цалаваў-

ся?

СЬЦЕПАН. Кахáненькая, рóдненькая, ня лезь у вóчы. А не, то вон с хáты і цябé з гэтáй дрэняй вы́ганю.

/Паулíнка ідзé з мíскай к дзьверáм; неўспадзеўкі дзьвéры атчыняюцца, ўвáліваецца ў хáту пьяны Пранцíсь Пустарэвіч, за ім - ягó жóнка. Пранцíсь нлумысьле выбівáе мíску ў Паулíнкі/.

ПАЎЛІНКА. Ай! Што-ж гэта, дзядзька, зрабíлі?

ЗЬЯВА VII - ая.

ПАЎЛІНКА - СЬЦЕПАН - АЛЬЖБЕТА - ПРАНЦІСЬ - АГАТА.

ПРАНЦІСЬ. Глýпство, глýпство, пáне добрудзé-ю. Пахвалёны Éзус. Собственно, аткýпім, аткýпім, вось-цо-да!

СЬЦЕПАН і АЛЬЖБЕТА. На вéкі!..

АЛЬЖБЕТА. А маé-ж вы, рóдніенькіе. Ці-ж гэта вы ўсё ешчэ з рынку éдзеце. Здаéцца-ж, ранéй за нас выехалі?

ПРАНЦІСЬ. Собственно, вось-цо-да, кабыла заблудзіла, пáне добрудзéю.

АГАТА. Тудэма-сюдэма, ці-ж гэта мачыляпа, ка-

лі прыехаў у сваім часе дамоў. Ён-жэ, як рызьнік, то туды, то сюды блытаецца па дарозе.

ПРАНЦІСЬ. Пане добрудзею, тваё бабскае дзела - маўчаць. Я, собственно, вось-цо-да, спрытны,- тонка панімаю, што і як раблю.

АЛЬЖБЕТА. Ды садзіцеся-ж, маё міленькіе!

АҐАТА. Тудэма-сюдэма куды тут садзіцца. Ноч на дварэ, кабыла за плотам, паўвярсты да дому, а гэты, тудэма-сюдэма, начніца касавокая ня вытрываў, каб людзям не нарабіць у ночы неспакойства. /Садзіцца, а за ёй - другіе/.

СЬЦЕПАН. Э, што там такое! Высьпімся! Дзякуй Богу, ночка не Пятровая, а Пакровая.

ПАЎЛІНКА /падбіраючы чэрапкі/. Заўтра госьці будуць, а дзядзька апошнюю міску стоўк. Трэба, каб на кірмашы дзьве аткупіў.

ПРАНЦІСЬ. Ґлупство, пане добрудзею, ґлупство! Хаўтурнаго, собственно, выпьем па місцэ. /Дастае з баковай кішані фляшку, пацягавае з яе і хавае назад/.

АЛЬЖБЕТА /сьмяючыся/. А каб гэта нам, сваток, даў гэтай сусолкі пассаць. Ці-ж мы з сваццей паскрэбкі...

ПАЎЛІНКА /выходзючы с чэрэпкамі/. Ого! Гэ-

тых сьвянцоных кропэль дзядзька і канаючаму не даў-бы, ня то, што... /Выходзіць/.

ЗЬЯВА VIII-ая.

СЬЦЕПАН - АЛЬЖБЕТА - ПРАНЦІСЬ - АҐАТА.

ПРАНЦІСЬ /ў сьлед Паулінцэ/. Ґлупство, ґлупство, пане добрудзею. Маладзенькая ешчэ, маладзенькая! Лазы трэба, собственно, вось-цо-да.

АҐАТА /да Альжбеты/. Што, свацейка, тудэма-сюдэма, добраго куплялі на рынку?

АЛЬЖБЕТА. Ат, сее ды тое! Паглядзіце, калі хочаце. Нічога такога цікаўскаго. /Устаюць і ідуць абедзьве к куфру і разгледаюць кінутые на ём пакупкі/.

ПРАНЦІСЬ /да Сцепана/. Чуў, сват, пане добрудзею, што сягоння людзі казалі?

СЬЦЕПАН. Не, не, кахаценькі, родненькі, ня чуў; не было калі! А што?

ПРАНЦІСЬ. Ды як-жэ, вось-цо-да! Кажуць, пранцуз, пане добрудзею, ідзе на Барысаў па шапку і рукавіцы, што калісь там аставіў. Чатырыста тысяч войска с сабой вядзе і, собственно...

АҐАТА /перэбіваючы, з мейсца/. Не чатырыста

тысяч, а чатыры сотні тысячаў...

ПРАНЦІСЬ. Ґлупство, ґлупство, пане добрудзею. Ўсё роўна ідзе, вось-цо-да. Спранжыновы касьцёл с сабой нясе, пане добрудзею.

АҐАТА /в мейсца/. Тудэма-сюдэма, не нясе, а на паветры на машыне, што летаюць, гэты касьцёл вязе.

СЬЦЕПАН і АЛЬЖБЕТА /зьдзівіўшыся/. Ай-я-я! Аж на паветры касьцёл вязуць!..

АҐАТА. Але-ж, але! Тудэма-сюдэма, я сама на свае вушы чула.

СЬЦЕПАН. Во калі пашло ўсё ўверх нагамі. Як паставюць гэты спранжыновы касьцёл, то можна будзе спадзевацца і для нашаго брата якога-такога палягчэння. Дзякуй Богу, дзякуй Богу!.. А вось мая гэта ахмістрыня, дачушка мая сакатушка, сплуталася з гэтым... з гэтым бязбожнікам, і хоць ты ей вар на галаву лі.

ПРАНЦІСЬ. Маладзенькая, собственно, вось-цо-да. Бярозавай кашы ня шкодзіла-б, пане добрудзею.

АЛЬЖБЕТА. Дужэ трудна паладзіць с цяперашняй моладзьдзю. Пашло такое распуства на съвеце, што не дай Божэ! Заместа кніжак да набажэнства - чытаюць нейкіе дрындушкі. Вецер у ваўсіх па галаве

ходзе. Гэта-ж мне калісь сказалі: ідзі за Сьцепана,- я і пашла без ніякай спрэчкі са сваімі старымі.

АГАТА. А так, так, тудэма-сюдэма! I мой, як ка мне пасватаўся, бацька нябошчык і кажэ: ідзі, бо ўсё роўна ніхто цябе лепшы ня возьме; я падумала, тудэма-сюдэма, ну і пашла. /Глядзяць абедзьве на сваіх мужоў, пасьля - адна на адну, плююць кожная ў другі бок, і разгледаюць ізноў клумкі/.

ПРАНЦІСЬ. Так, так, пане добрудзею, іначэй калісь было. /Дастае фляшку і пье, а посьле дае Сьцепану/. Собственно, глупство, вось-цо-да, было, а ты сват выпі, каб тое, што было, у памяці не сядзело. /Сьцепан пье, Пранцісь прыдзержывае за фляшку, каб той за лішне ня выпіў/.

СЬЦЕПАН /абціраючы вусы і сплёвываючы/. Шчыпецца, каб яе гаручка.

ПРАНЦІСЬ /хаваючы гарэлку/. Ага, вось-цо-да, шчыпецца, собственно, бо чужая, пане добрудзею. /Абодва закурываюць/.

АЛЬЖБЕТА /да Агаты/. А ці заўтра, сваценька, будзеце на кірмашы?

АГАТА. Ды трэба-ж будзе як сьцягацца.

## ЗЬЯВА IX-ая.

### ТЫЕ-ж і ПАЎЛІНКА.

ПАЎЛІНКА /ўхо́дзючы, да Альжбе́ты/. Мо́жэ-б, ма́мка, прыці́снулі сыр,бо да за́ўтрашняга не атці́сьнецца.

АЛЬЖБЕТА. Ешчэ́ пасьпе́е... Дай мне с цёткай разгавары́цца.

ПАЎЛІНКА. Ідзі́це, ідзі́це, ма́мка, а я за цябе́ с цёткай пагавару́.

АҐАТА. Ідзі́це, сва́цейка. Тудэ́ма-сюдэ́ма, не зважа́йце на мяне́. Мы тут с Паўлі́нкай пачэка́ем на цябе́.

АЛЬЖБЕТА /выхо́дзючы/. Ну, як сабе́ хо́чэце. /Паўлі́нка з Аґатай садзя́цца на ку́фры і жы́ва аб чымсь гаво́руць/.

## ЗЬЯВА X-ая.

### ПАЎЛІНКА - СЬЦЕПАН - ПРАНЦІСЬ - АҐАТА.

СЬЦЕПАН. Зна́еце, свато́к, гэ́таго, гэ́таго... як ён... а каб цябе́... /Да Паўлі́нкі/. Паўлі́нка, як гэ́ты заве́цца, што мяне́ сяго́ння падма́зываў?

ПАЎЛІНКА /з ме́йсца/. А скуль-жэ я магу́ ве́даць, хто та́тку ма́заў?

СЬЦЕПАН. Ну, гэты-ж?.. каб ён цяміўся... як яго?.. зяць, зяць!

ПАЎЛІНКА /прыпамінаючы/. Як-жэ ён, як?.. Здаецца, Бык... Бычок...

СЬЦЕПАН. Ага, ён, ён. Не, не так! Быкоўскі, кахаленькая, родненькая, вось як. Пан Адольф Быкоўскі. /Да Пранціся/. Дык бачыш, сваток, ён, знаецца, падлабуніваецца к маей Паўлінцэ. Што ты на гэта?

ПРАНЦІСЬ /дастаючы гарэлкі/. Глупство, глупство, пане добрудзею. Собственно, бычок, вось-цо-да, і больш нічога. /Пьець і дае гарэлкі Сьцепану/.

СЬЦЕПАН /выпіўшы/. Заўтра, знакам тым, прыедзе абнюхаць, як і што, дык і сваток са сваей загляньце да нас. А ну-ж, каханенькі, родненькі, можэ які гандэль будзе наладжывацца, дык прыкінеш якое слаўцо. Прыедзьце толькі.

ПРАНЦІСЬ. Глупство, пане добрудзею, і прыйці можна. Собственно, блізка, вось-цо-да.

СЬЦЕПАН. Блізка, то блізка, але каб не было сьлізка: на дождж як-бы зьбіраецца.

ПАЎЛІНКА /з мейсца/. А ці татка каня паілі?

СЬЦЕПАН. Не, каханенькая, родненькая. Зараз

пайду. /Да Пранціся/. А можэ разам з сватам пойдзем. Я свайго напаю, а сват свайго паглядзіш, ці добра прывязаны.

ПРАНЦІСЬ. Глупство, пане добрудзею. Собственно, жонка завязе, калі кабыла уцекла. /Да Агаты/. Праўда, баба?

АГАТА /з мейсца/. Што?- праўда.

ПРАНЦІСЬ. Собственно, калі-б кабыла ўцекла, то мяне тады ты дамоў завязеш, пане добрудзею.

АГАТА. А каб ты, тудэма-сюдэма, бокам еўдзіў! Ідзі скарэй паглядзі. Гэта-ж і мне с памяці сышло.

СЬЦЕПАН. Пойдзім, каханенькі, роднэнькі. /Абымаюцца і сланяючыся выходзяць, напеваючы/.

Чаму-ж нам ня пець,
Чаму-ж не гудзець,
Калі ў нашых хатачках
Парадак ідзець?

ЗЬЯВА XI-ая.

ПАЎЛІНКА - АГАТА.

ПАЎЛІНКА. Але-ж калі я яго люблю, цётачка.

АГАТА. Мала што, дзеткі, тудэма-сюдэма, лю-

біш яго; але, калі бацька ня хочэ, дык падумай, што людзі скажуць, як супроці волі старых пойдзеш?

ПАЎЛІНКА. А што там людзі? Яны з ім жыць за мяне ня будуць, і па маей сьмерці за мяне пакутаваць ня будуць. Пагаворуць, пагаворуць, ды перэстануць, як намазаляць языкі.

АГАТА. Як уважаеш, мае дзеткі. Што-ж, я, тудэма-сюдэма, нічога не параджу.

ПАЎЛІНКА /заламаўшы рукі на каленях/. Калі ён такі добры, такі разумны, што і сказаць не магу.

АГАТА. Усе яны добрые, пакуль не ўбярэ катторы дзяўчыны ў свае рукі, а як убярэ, тады на другі лад, тудэма-сюдэма, зайграе, а ты танцуй пад яго дудку. І мой, пакуль толькі сватаўся да мяне, - патульны быў, як цялё, а як ажаніўся дык праўдзівым ваўком зрабіўся.

ПАЎЛІНКА /як-бы не зважаючы на гаворку Агаты/. Кніжкі мне прыносіў... Хораша так аб усім расказываў... як трэба жыць, як працаваць, як людзей трэба ўсіх любіць, і шмат, шмат чаго. І любіць-жэ ён гэтых людзей. сусім неяк не так, як мы іх любім. Гэта-ж трэба ведаць, столькі мой

тата на яго ўсякай дарэмшчыны нагаварыў і ачарніў, а ён хоць-бы што. "Ведама, кажэ, чэлавек: яму нешта абышло, ці не спадабалося, дык і памстуе. У нас, кажэ, ўсё ідзе не так, як трэба. Людзі, кажэ, ў нас, як зьвяры: адзін на другога кідаюцца, адзін другога цкуюць, пад'юджываюць, ненавідзюць адзін другога. З малку дзён, кажэ, прывыкаюць у ненавісьці жыць, з малку дзён іх к гэтаму вучаць і дома і за домам. Сьляпые, кажэ, ўсе сьляпые. Адзін над другім не маюць ніякай літасьці, хоць усіх душуць зьверху ўселякіе пошэсьці ды злыдні".

АГАТА. Чула я, чула аб ём не раз. Вельмі ўжо, кажуць, тудэма-сюдэма, разумны і добры ён.

ПАЎЛІНКА /ажывіўшыся/. А што-ж, ці не праўда? І ўсё-б было добра, каб ня гэты тата. Хоць нема ведама што рабі з ім.

АГАТА. Трэба, дзеткі, пачэкаць, ану-ж, тудэма-сюдэма, ліха пераменіцца і ўсё добра будзе.

ПАЎЛІНКА. Трэці год, цётачка, чэкаем і нічога не выходзе. Трэці год трасуся і выгледаю тэй часінкі, каб толькі з ім пабачыцца. Павешуся, цётачка, павешуся, калі мяне з ім разлучуць.

АГАТА /хрысьцючыся/. Жейца, Сына! Тудэма-сю-

дэма, што ты, Паулінка? Набойся Бога гэткіе рэчы гаварыць напроць ночы. Цьфу, цьфу! Матачка Найсьвентшая!

ПАУЛІНКА /паказываючы/. Калі тут, цетачка, пат сэрцам так баліць, так баліць, што і жыць не у магату. Такі ён міленькі, такі прыгожэнькі, такі паслухмяны... /Заглядзіушыся у даль/. Калі ешчэ с татам былі яны добра, прыдзе, бывала, вады за мяне прынясе, дрэукі нашчэпае. Не глядзіць на тое, што калісь вучыуся, а цяпер і сам вучэ і большых, і меньшых. Ніколі ад яго слова благога ня чула. Так, ведаеце, цетачка, і хочэцца с кім колечы аб ім гаварыць і думаць без канца і пачатку. І чаму я такая нешчасная? /Са сьлязьмі/. Бацька родны хочэ мяне адарваць ад таго, хто мне цяпер мілей ад усяго чыста - жыцьця, хаты роднай, цэлаго сьвету. І чаму-ж я такая нешчасная?

АГАТА /тулючы к сабе Паулінку, праз сьлезы/. Ціха, мае дзеткі, ціха. Не гаруй, не маркоцься, міленькая, вельмі. Нояк-жэ ды будзе. Бог Найвышэйшы, тудэма-сюдэма, міласэрны, і аб тваей тут цяжэнькай долі не забудзецца.

ПАУЛІНКА /якбы збудзіушыся/. А ніхай сабе будзе, што мае быць, - я свайго такі дабьюся, або

згіну, каб і сьледу не асталося.

АГАТА. А усё-ж такі скажы мне, дзеткі, чаму так твой тата на яго заеўся?

ПАЎЛІНКА. Бо, бо Якім з мужыкоў.

ЗЬЯВА XII-ая.

ПАЎЛІНКА - АГАТА - СЬЦЕПАН - ПРАНЦІСЬ.

ПРАНЦІСЬ /за дзьвярыма/. Глупство, вось-цо-да. Ня дзе падзелася. Я знаю, собственно, дамоў уцекла, пане добрудзею.

СЬЦЕПАН /уходзючы ў хату, а за ім - Пранціcь/. І трэбало-ж свату так дрэнна яе прывязаць, ды ў гэткую ешчэ цемру.

АГАТА /усхапіўшыся/. Каго прывязаць?

ПРАНЦІСЬ. Кабылу, кабылу, пане добрудзею. Ужож не цябе, вось-цо-да.

АГАТА. Дык дзе-ж кабыла.

ПРАНЦІСЬ /дастаючы фляшку/. Собственно, німа кабылы, дзе была, вось-цо-да, панедобрудзею.

АГАТА /падбегаючы к Пранціcю с кулакамі/... Дык чаго-ж ты, тудэма-сюдэма, несьвянцоная костка, разсеўся, як у сваей хаце.

ПРАНЦІСЬ /пацягіваючы з бутэлькі/. Глупство, глупство, вось-цо-да. Пасьвеньцім, собствен-

но, пане добрудзею, калі несьвянцоная.

АГАТА /хочэ вырваць фляшку, Пранцісь не дае/. Вот я цябе зараз, тудэма-сюдэма, як высьвенчу гэтай фляшкай па галаве, дык і сваіх не пазнаеш, нешчасны ты "вось-цо-да". /Галосючы/. А Божэ-ж мой, бацюхна мой! На што мяне пакараў гэтай, тудэма-сюдэма, пьяніцай, гэтай недарэкай, гэтай куксамордай, гэтай... гэтай...

ЗЬЯВА XIII-ая.

ТЫЕ-ж і АЛЬЖБЕТА.

АЛЬЖБЕТА /ўбегае, трымаючы ў руцэ клінок с тварагом/. Што гэта ў вас тут парабілося, мае міленькіе?

ПАЎЛІНКА. Кабыла дзядзькава ўцекла, ці хто ўкраў. /Ідзе, садзіцца на ложку і шые/.

АЛЬЖБЕТА /да Пранціся/. Дык чаго-ж, сватка, чэкаеце? Бяжыце скарэй дамоў, - пэўне там; гэта-ж ей не першыня.

АГАТА. Ці-ж гэту, тудэма-сюдэма, трухлявую калоду зрушыш з мейсца. Сядзіць-жэ вось анцыхрыст, каб яму моль пяты пабіла, і з мейсца не скранецца.

СЬЦЕПАН /закурываючы люльку/. Супакойцеся ,

свацьця. Ня дзе яна дзенецца. Каха, ненькая, родненькая, яна дома, напэўна дома.

АГАТА. А сват, тудэма-сюдэма, ня сунься с сваім носам туды, куды цябе ня просюць. /Да Пранціся/. Ідзем! Чуеш, ці не!..

ПРАНЦІСЬ /устаючы/. Глупство, пане добрудзею, глупство. Мае мазгі спрытные. На табе, восьцо-да, паеду, собственно, дамоў.

АГАТА /выводзючы Пранціся/. Бывайце здаровы! Пахвалёны Езус!.. Падла гэты, ламака нарабіў работы. /Выходзюць, за імі - Альжбета с клінком/.

### З Ь Я В А XIV-ая.

ПАЎЛІНКА - СЬЦЕПАН.

СЬЦЕПАН. Ох, і даюцца-ж гэтые сваякі ў знакі. Але, дзякуй Богу, дзьве дзюркі ў носе і скончылося, - ўжо пазбыўся.

ПАЎЛІНКА. А даунс гэта таткаў гняды ўцёк з Лужанкі, і татка дамоў пехатой прытрэпаў.

СЬЦЕПАН. Што было, тое сплыло і болей, каханенькая, родненькая, ня будзе, як кажуць людзі.

ПАЎЛІНКА. Паглядзім. Заўтра кірмаш.

СЬЦЕПАН. Ня бойся, каханенькая, родненькая.

Я кабылу злаўлю, але і ты глядзі, каб мне таго зяця зlавіла, аб якім я табе сягоння гаварыў.

ПАЎЛІНКА. Што ён конь, ці вол, каб я яго ешчэ мела лавіць.

СЬЦЕПАН. Ні конь і ні вол, атак сабе дойная жывеліна.

ПАЎЛІНКА. Дык татка яго і дойце, калі ён для вас такі дойны, а я і ня думаю.

СЬЦЕПАН. Нічагутэнькі, каханенькая, родненькая. Надумаешся, ваша, як пакармлю бярозавай кашай. Вось толькі, каб пагода была добрая, а то казаў ён, што на кірмаш не паедзе, калі будзе дождж ісьці.

ПАЎЛІНКА. Ліха ня возьме! Гэткі цукер не размокне.

СЬЦЕПАН. Каханенькая, родненькая, як скажу, так і будзе; дзьве дзюркі ў носе і сконьчылося. Вось толькі трэба даведацца, ці будзе напэўна заўтра пагода. Купіў я сягоння календар - нейкі беларускі, як кажэ крамнік. Пытаўся ў яго, ці пішэ аб пагодзе, дык крамнік гаворэ мне, што аб пагодзе напісана ў ім болей, як аб чым другім. Значыцца, паглядзім праўды. /Ідзе і дастае з-за абраза календар, аткуль валіцца на зямлю фатагра-

фія. Паўлінка, саскочыўшы з ложка, падбегае падняць яе, але не усьпевае/.

СЬЦЕПАН /падымаючы фатаграфію/. А гэта што такое?

ПАЎЛІНКА /хочучы адбраць/. Гэта мае. Аддайце мне, тата!

СЬЦЕПАН. Я пытаюся - хто гэта?

ПАЎЛІНКА. Ці-ж, тата, не бачыце?

СЬЦЕПАН /са злосны насьмешкай/. Ха-ха-ха! Якім... Хай-жэ ён прападзе саўсім. /Хочэ рваць, Паўлінка адбірае/.

ПАЎЛІНКА /скрозь сьлёзы/. Аддайце, татачка, аддайце, ня рвіце! Ня зьдзекавайцеся над ім.

СЬЦЕПАН /атпіргнуўшы ад сябе Паўлінку/. Адчапіся ад мяне, гіцлеўка. Я вам тут наразводжу шашняў... /Стукат у сенцах. Уходзюць: Пранцісь, Агата, а за імі - Альжбета. Паўлінка стаіць патупіўшыся, глытаючы сьлёзы, і скубець пальцамі фартух/.

ЗЬЯВА XV-ая.

ПАЎЛІНКА - СЬЦЕПАН - АЛЬЖБЕТА - ПРАНЦІСЬ - АГАТА.

ПРАНЦІСЬ. Глупство, пане добрудзею. Я, восьцо-да, казаў, собственно, ня дзе падзеніцца.

АҐАТА /дражнючы/. Вось-цо-да, вось-цо-да! Сам кабы́лу, тудэ́ма-сюдэ́ма, паста́віў у вас пат паве́ткай, а шука́е за пло́там. Да́рма то́лькі по́ўзалі і сьлядо́ў прыгледа́ліся.

АЛЬЖБЕТА. Ну, дзя́куй Бо́гу, што хоць нашла́ся. /Да Сьцепа́на/. Што ты там кру́ціш у рука́х?

СЬЦЕПАН /ты́каючы фатагра́фіей у твар Альжбе́це/. На,на! любу́йся, які́е прэзэ́нты атрымлі́вае твая́ дачу́шка.

АЛЬЖБЕТА /закрыва́ючы руко́й твар/. Чаго́ суе́шся.. Така́я яна́ і твая́, як мая́.

СЬЦЕПАН. Лжэш! Каб яна́ была́ мая́, то была́-б така́я, як і я.

ПРАНЦІСЬ. Пакажы́, пакажы́, па́не добрудзе́ю,што гэ́та за пту́шка?

СЬЦЕПАН /пака́зываючы/. На, глядзі́, свато́к! Павіншу́й мяне́ с тако́й дачу́шкай і з гэ́тым, з гэ́тым гарэ́тыкам.

ПРАНЦІСЬ /разгледа́ючы/. Эгэ́! Гэ́та гэ́ты разу́мненькі, вучо́ны, грамацэ́й... Со́бственно, Саро́ка, вось-цо-да.

СЬЦЕПАН. Але́-ж, але́! Які́м Саро́ка.

АҐАТА /да Сьцепа́на/. Тудэ́ма-сюдэ́ма, пакажыце і мне, сва́тка.

ПРАНЦІСЬ /да Агаты/. Ты пане добрудзею, баба, ня лезь сюды с цікавым носам. Собственно, пільнуй сваей спадніцы і панчохаў, вось-цо-да. А мы суд, суд зробім... правы і скоры.

ПАЎЛІНКА /патходзючы да Альжбеты, ласкава/. Мамачка, адбярэце яе ў таткі.

АЛЬЖБЕТА. Што я з ім, дзеткі зраблю? Ешчэ біцца будзе.

СЬЦЕПАН /да Пранціся/. А добра, сватка, кажыш. Зробім суд, перасуд добрым складам над гэтым гадам. А які?

ПРАНЦІСЬ. А такі, пане добрудзею: страўнікаў паклікаць, спраўніку данясьці. Собственно, інквізытарскі суд зрабіць - па палавіне шась! і гатова, вось-цо-да.

ПАЎЛІНКА /кідаючыся к Сьцепану і цалуючы яму рукі, скрозь сьлезы/. Татачка, аддайце. Ня зьдзекавайцеся над ім!.. Ён-жэ вам нічога благога не зрабіў.

СЬЦЕПАН /са злосьцю/. Спаць, спаць пашла, калі гэткаго нашла! Спаць! /Рве фатаграфію/.

ПАЎЛІНКА /с плачэм апускаючыся на лаву/. Татка згубіць мяне хчэце... гвалтам с хаты выгнаць.

ПРАНЦІСЬ /дастаючы фляшку/. А цяпер, собст-

венно, вы́пьем хаўту́рнаго, вось-цо-да. /Пье/.

ПАЎЛІНКА /ўсхапі́ўшыся з ла́вы кіда́ецца к Пранцісю́/. Па кабы́ле сваёй пі хаўту́рнага, а не па чэлаве́ку, като́раго і падно́скаў не варт! /Вырыва́ючы і разьбіва́ючы аб зямлю́ фля́шку/. Вось-цо-да.

ПРАНЦІСЬ /разьве́сіўшы ру́кі, зьдзі́ўлены, як і ўсе́/. О-о-о!!..

З а с л о́ н а.

# АКТ II - гі

- - - - -

Тáя-ж сáмая - што ў пéршым áкце - сьвятлíца. За сталóм седзя́ць: Сьцепáн, Альжбéта і гóсьці - тры хлóпцы і тры дзяўчыны. Мужчы́ны седзя́ць з аднагó канцá сталá, а кабéты /жанкí/ - з другóга. Пьюць гарбáту,налівáючы на спóдкі; закýсываюць. Дзяцюкí з дзеўчáтамі жартýюць, перакíдываючыся крóшкамі ад хлéба. З лéвай стараны́ /глéдзючы ад пýблікі/ пры сьцянé ад бакóўкі - седзя́ць два музы́кі і, звóдзючы інструмэ́нты, сьцíха перэгавáрываюцца між сабóй.Ля дзьвярэ́й ад сéнцаў, у канцы́ кýфра, на табарэ́це стаíць самавáр. Паўлíнка прыбрáўшыся па сьвятóчнаму увіхáецца каля́ гасьцéй. Трóхі ў твáры зьмяніўшыся; час-ад-чáсу ўздыхáе і не ў знак пагледáе ў вакнó; адно́, старáецца быць с усíмі вясéлай і бóйкай. Як падымáецца заслóна - Паўлíнка нясé гарбáту.

- - - - - -

ЗЬЯВА І-ая.

ПАЎЛІНКА - СЬЦЕПАН - АЛЬЖБЕТА - ГОСЬЦІ - МУЗЫКІ.

ПАЎЛІНКА /стаўляючы гарбату перэд Сьцепанам/. Што-ж гэта нешта татаваго зяця так позна ні слуху, ні духу? Ці ня знюхаў ён, што ў мяне пасагу німашака.

СЬЦЕПАН. Каханенькая, родненькая не бядуй. Ня будзе Гірша, будзе чорт іншы.

ПАЎЛІНКА /насьмешліва/. Мала што будзе... Але-ж, калі мяне ўжо неяк, як цмокам, стало цягнуць к гэтаму Бык.. Бычку... Ах, як яго?..

СЬЦЕПАН /з націскам/. Быкоўскаму.

ПАЎЛІНКА /падходзючы к другому канцу стала/. Можэ Адэльцэ ешчэ шкляначку?

АДЭЛЬКА /госьця/. Дзякуй. Ўжо напілася.

АЛЬЖБЕТА. Ды бяры! Што там пытаешся! Панна Адэля толькі дзьве выпіла.

АДЭЛЬКА. Калі-ж болей ня хочэцца.

АДЗІН З ГАСЬЦЕЙ. Хай паненцэ захочэцца для маей кумпаніі.

ПАЎЛІНКА /забіраючы шклянку/. Выпьеш, выпьеш, Адэлька, - зьмесьціцца.

АЛЬЖБЕТА /падсовываючы гасьцям яду/. Старай-

цеся, госьцікі, старайцеся. Вось - сыр, масла, вангліна! Такі-ж сягоння трохі папрацавалі каля полькі і лявоніхі.

КОЛЬКІ ГАЛАСОЎ /перажовуючы і сёрбаючы/. Дзякуй, дзякуй! Мы стараемся.

СЬЦЕПАН. Чым хата багата - тым рада. Хлеб на стале - рукі свае. Выбачайце толькі, каханенькіе, родненькіе, што гарэлкі німа. Але я ў гэтым не вінават. Хацеў ўзяць ў Міхалішках, дык, як на ліха, манаполька цэлы дзень была закрыта.

МУЗЫКА /ў старану да другога/. Каб не салгаў, дык-бы і ня жыў. Я сам бачыў, як прысьля імшы адбываўся з фляшкамі пры манапольцэ нешпар.

ДРУГІ МУЗЫКА. Слухаць. Скнэра і больш нічога.

ПАЎЛІНКА /паставіўшы Адэлі шклянку, к аднаму з гасьцей/. Можэ, пан Вінцусь, ешчэ выпье?..

ВІНЦУСЬ - госьць /уціраючы канцом настольніка губы і лоб/. Яно-б то было ўжо і досіць, але, калі панна Паўлінка так пекна просіць, дык можна ешчэ са шкляначку.

ПАЎЛІНКА /ідучы са шклянкай, у старану публікі/. Гэты ўжо дык пятую шклянку бабохае. Наробіць сабе клопату, каб я так жыла.

